## ЛІНГВІСТЫ, НЕ ПРАЙДЗІЦЕ МІМА.

Для кожнага, хто займаўся лінгвістыкай, не з'яўляецца сакрэтам, што мова кожнага народа - гэта жывы арганізм. Яна нараджаецца, жыве, развіваецца, старэе і нарэшце памірае. Яна мае перыяды росквіту і заняпаду. Мова нараджаецца заўседы пазней за народ, які з'яўляецца яе носьбітам, а вось памірае па розаму. Бывае, што мова перажывае народ, як латынь; бывае гіне разам з народам, як пруская ці мова ацтэкаў,але ніколі яшчэ не было, каб народ перажыў мову. Прынамсі, людзі могуць перажыць, але гэтыя людзі не будуць ужо ранейшым народам.

Беларуская мова нарадзілася яшчэ да з'яўлення першых дзяржаўных утварэнняў.Замес крывічоў і дрыгавічаў на балцкім субстраце падышоў новым народам з новай мовай, адрознай ужо ад іншых славянскіх моваў. Пачалося развіцце і сталенне яе, павольнае спачатку, пакуль былі шчыльныя зносіны са шматлікімі паўднёва-славянскімі народамі і хуткае потым, калі гэтыя зносіны аказаліся аслабленымі межамі Вялікага Княства Літоўскага. Стымулявала развіцце мовы патрэба у яе паслугах з боку розных галін дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Перашкаджала хуткаму развіццю беларускай мовы моцная кніжная традыцыя, заснаваная на паўднёва-славянскай, галоўным чынам балгарскай, моўнай форме. Тым не менш жывая мова слова за словам замяняла старакніжную і замацоўвалася, як у гутарцы, так і на паперы. Ішоу звычайны працэс развіцця мовы, аж пакуль не адбылося яе сутыкненне з мовамі, спачатку польскай, а пасля усходне-славянскай, на развіцце якой значны адбітак наклаў угра-фінскі субстрат і пазнейшы (гадоў на 500) пачатак выдзялення з царкоўна-балгарскай формы у самастойную мову, якую мы зараз называем рускай, або расейскай.

Пры гэтым сутыкненні беларуская мова на пачатку мела нават перавагу. Па беларуску размаўлялі і каралі Польшчы, і цары Расіі. У Польшчы дзяржаўныя акты пісаліся на двух мовах: на латыні і на беларускай, але не на польскай. Усю сістэму адукацыі і асветы Расіі заклалі беларусы. Але, маючы поўную лінгвістычную перавагу над суседнімі, беларуская мова сталася дзяржаўнай у палітэтнічнай, талерантнай, паліканфесійнай краіне. Манаэтнічныя Польшча і Масква аказаліся з цягам часу мацнейшымі, спачатку духоўна, а пасля і фізічна.

Далейшае нам вядома.Спачатку паланізацыя,пасля русіфікацыя, а пасля і тое, і другое. І, як вынік,забарона беларускай мовы, як каралем польскім, так і царом рускім.

Пачаўся заняпад мовы.Мова перастала ужывацца у многіх галінах жыцця, і ад яе,як сухія галіны, пачалі адпадаць цэлыя моўныя пласты: уся дзяржаўная, вайсковая, навуковая, мастацкая, рэлігійная і г.д. тэрміналогія. Не знайшла свайго беларускага праяўлення новая тэхнічная тэрміналогія, гаспадарчая, палітычная і гэтак далей.

Што ж засталося? Застаўся пласт,які забяспечваў патрэбу народа на узроўні натуральнай сялянскай і дробнай мяшчанскай гаспадаркі. Але гэта засталася не кволая вершаліна, якую мог зламаць адзін парыў ветру. Гэта засталіся карані, якія ворагам беларушчыны давялося карчаваць амаль чатыры стагоддзі і толькі зараз, за апошнія 60 гадоў, калі здалелі адарваць беларуса ад зямлі і уласнасці, мова пачала паміраць.І заставалася ей, як і усей Беларусі існаваць гадоў дзесяць-дваццаць.Але бог зліставаўся над шматпакутнай Беларуссю, і дождж адраджэння ажывіў ужо вывернутыя,але яшчэ не вырваныя карчы беларушчыны. Зазелянелі маладыя, пакуль кволыя, парасткі. Але пройдоу год-другі, і што мы бачым? Мы бачым з'яву,дзеля апісання якой і спатрэбіўся гэтакі доугі уступ.

Ужо адзначалася,што ад беларускай мовы застаўся адзін пласт, які абслугоўваў просты народ з яго невялікімі патрэбамі, з ужыткам у штодзенным жыцці да 2...3 тысяч словаў. Такую мову засталі нашы адраджэнцы у канцы мінулага - пачатку нашага стагоддзя. Засталі,і жахнуліся,і пачалі выкопваць словы з песень, з казак, з памяці, са старых кніг.З аднаго боку ім было лёгка. Іх не няволіла ніякая кніжная традыцыя, ніякая арфаграфія. Пішы, як хочаш, тое, што чуеш. Практычна, мова за тыя стагоддзі, на якія яе адарвалі ад пісьма, зрабіла скачок у развіцці, але гэта быў скачок у бездань. Мова рашуча адарвалася і ад польскай, і ад расейскай,але адарвалася так,што ледзь не загінула.

З канца мінулага стагоддзя мова пачала адраджацца, але па змесце і структуры прадаўжала заставацца простай, мужыцкай. Трагедыя 30-х гадоў і далейшы моўны генацыд ізноў адкінулі яе назад. І вось новае адраджэнне. У мяне у руках кніга на беларускай мове венгерскага пісьменніка Дзердзь Сіты "Прыватнае расследванне".Пераклад Эміля Турані і Уладзіміра Арлова. Што ж у ей цікавае? Дэтэктыу, так сабе, не Конан Дойль. Цікавае другое. Цікавая мова перакладу. Асаблівая мова. Гэтую асаблівасць цяжка было б заўважыць у чыста беларускай кнізе, хай нават і таго ж Арлова.Але сухі замежны дэтэктыў ярка высвятліў яе. Высвятліў тое, што даўно у розных абставінах нагадвала аб сабе, але заставалася незаўважаным.А менавіта:з беларускай мовы пачынае выкрышталізоўвацца тое, што можна б было назваць "высокім стылем беларускай мовы". Беларуская мова перастае быць мужыцкай, становіцца далікатнай, вытанчанай. Мне могуць запярэчыць, што яна заўседы была і далікатнай і вытанчанай. Так, але менавіта гэтыя якасці і не высвечваліся, не бліщчалі.

Вось некалькі прыкладаў.

У.Арлоў замест слова "прыхожая" ужыў слова "вітальня" і заззяў не толькі сказ, а уся старонка,замест слова "запіска" ужыта "цыдулка", і зноў іншае уражанне ад сказа. Здаецца,што б тут такога, але менавіта такімі словамі і дасягаецца тая вытанчанасць. Такіх словаў апошнім часам з'явілася у мове шмат. Гэта і "гасцеўня", і "лецішча", і "летнік", і "вучэльня", і "вакацыі" і шмат іншых. З'яўляюцца словы, для якіх у мове даўно існуюць сінонімі, але сінонімы гэтыя,як правіла запазычаныя, карявыя для беларускага вымаўлення. На змену ім ідуць перлы,якія доугі час ляжалі пад друзам бяспамяцтва.Іх будзе з кожным днем усе больш, і мы дачакаемся тога часу,калі у філалагічных навучальных установах пачнуць чытаць курс "Высокі стыль беларускай мовы", аформіўшы арганізацыйна тое, што усе жыцце рабіў Федар Янкоўскі. І зацвіце на маладым парастку адроджанай беларускай мовы цудоўная кветка высокага стылю.

Вінцэнт Доўнар-Грынькевіч.

## БЕЛАРУСКАЯ НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА

( Працяг. Пачатак на старонцы 1 )

нацыі у многім залежыць ад таго, каго мы выпусцім са школьных партаў: свядомых беларусаў,бясколерных інтэрнацыяналістаў, ці ворагаў уласнага народа.Як мы паставім сення адукацыю і выхаванне, такі стан нацыі будзем мець заўтра.

4-га верасня па Прыазерскаму тэлебачанню выступіў Ігар Супаненка і вельмі дакладна і поўна распавеў пра школу. У прыватнасці было сказана, што Прыазерская суполка ТБМ шчыльна супрацоўнічае з культурным асяродкам "Беларусь" горада Алма-Аты. Селета культурны асяродак "Беларусь" правеў конкурс на веданне гісторыі Беларусі. Па выніках гэтага конкурсу, у якім прымалі удзел і нашы дзеткі, 8 чалавек было залічана у беларускія ВНУ без экзаменаў. Усяго КА "Беларусь" мае прва накіроўваць у ВНУ Беларусі штогод да 20 чалавек.

Ненаўмысная рэклама зрабіла сваю справу. 6-га верасня у школу прыйшло 14 новых вучняў, але, разам з тым, да 10 чалавек выехала у Беларусь. Тым не менш,на 20 верасня колькасць вучняў дасягнула стабільнай для нас лічбы 40 чалавек, і гэта яшчэ не мяжа. Да таго ж на занятках з'явіліся дарослыя, чаго не было летась.

Заняткі пачаліся у 4-х групах:
першая група - другі клас агульнаадукацыйнай школы;
другая група - трэці клас;
трэцяя група - чацверты-шосты класы;
чацвертая група - семы-адзінаццаты класы і дарослыя.

Заняткі вядуць афіцэры, сябры Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, усяго 6 чалавек.

Заняткі, як і раней,пайшлі па трох прадметах: па беларускай мове, па беларускай літаратуры, па беларусазнаўству (гісторыі, геаграфіі, мастацтву, культуры, рэлігіі Беларусі).

Селета старэйшая група пазнаеміцца,акрамя усяго, з граматыкай Тарашкевіча, вывучыць беларускую лацінку.

Гісторыя выкладаецца у старэйшых групах па кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь",а у малодшых па "Кароткаму агляду гісторыі Беларусі".

Разам з тым, трэба адзначыць, што трэці навучальны год пайшоў многа цяжэй з-за кепскага забяспячэння падручнікамі.Вельмі дорага каштуе перасылка іх з Беларусі.

Але, не гледзячы ні на што, барацьба будзе працягвацца. Барацьба за кожнага чалавека, за кожнага будучага грамадзяніна Беларусі, за кожнае слова роднай мовы, уложанае у памяць, за кожнае імя гістарычнага дзеяча Беларусі укладзенае у душу, палаючае нацыянальную свядомасць. Можна быць упэўненымі,што пасля нашай школы, у Беларусі бязродных манкуртаў стане на 40 чалавек меней.

## ЗВАРОТ

сходу вайскоўцаў Прыазерскага гарнізона...

(Заканчэнне. Пачатак на старонцы 2.)

службу за межамі Беларусі.

3. Заключыць міждзяржаўныя пагадненні паміж Рэспублікай Беларусь і усімі краінамі СНД аб статусе вайскоўцаў - ураджэнцаў Беларусі,якія праходзяць службу ва Узброеных Сілах гэтых краін з захаваннем за вайскоўцамі і членамі іх сямей правоў на грамадзянства Рэспублікі Беларусь і выцякаючых з гэтага правоў і сацыяльных гарантый на уласнасць, атрыманне жылля, адукацыю і г.д., прадугледжаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, заканадаўствам Беларусі,пагадненнямі краін-удзельніц СНД і міжнародным правам. (Як варыянт, прапануецца разгледзець: наданне вайскоўцам, якія праходзяць службу за межамі Беларусі, статуса вайсковага дарадцы з магчымасцю выкарыстання іх, як у бліжнім, так і дальнім замежжы; службу па кантракту; накіраванне у доугатэрміновую камандзіроўку і г.д.).

4. Даручыць Ураду Беларусі у бліжэйшы тэрмін распрацаваць дзяржаўную праграму вяртання, дабраўпарадкавання і сацыяльнай абароны вайскоўцаў і членаў іх сем'яў, а таксама асоб,звольненых у запас і адстаўку, якія праходзілі службу на тэрыторыі краін СНД.

Кантроль за ажыццяўленнем гэтай праграмы ўскласці на камісію (падкамісію) Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах бліжняй эміграцыі.

5. Заключыць міжурадавыя пагадненні паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі краінамі СНД аб спрашчэнні пераводу беларускіх афіцэраў са Узброеных Сіл гэтых краін у Беларускае Войска.

6. Растлумачыць механізм удзелу вайскоўцаў-ураджэнцаў Беларусі, якія праходзяць службу за яе межамі, у надыходзячым працэсе прыватызацыі.

7. Пры распрацоўцы і прыняцці рашэнняў па пытаннях, краналючых лесы вайскоўцаў,якія праходзяць службу за межамі Беларусі, членаў іх сямей, улічваць іх думкі і прапановы.

Мы звяртаем увагу шаноўных народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, грамадскасці Беларусі, што справа ідзе пра сорак тысяч афіцэраў і прапаршчыкаў, з сем'ямі гэта складае каля 120 тысяч.

Застацца абыякавым да такой колькасці народу-гэта будзе не проста амаральна, гэта будзе злачынна.

Зварот прыняты на сходзе афіцэраў і прапаршчыкаў Прыазерскага гарнізона, ураджэнцаў Беларусі 6.09.92 года і змацаваны подпісамі удзельнікаў сходу.

¤ ¤ ¤

ПРЫАЗЕРСКАЯ СУПОЛКА БЗВ ВІНШУЕ КІРАЎНІЦТВА БЗВ І УСІХ СУМЛЕННЫХ БЕЛАРУСКІХ АФІЦЭРАЎ З ПРЫНЯЦЦЕМ ПРЫСЯГІ НА ВЕРНАСЦЬ БЕЛАРУСІ 8 ВЕРАСНЯ 1992 ГОДА.

МЫ ВІТАЕМ ВАШУ РАШУЧАСЦЬ І АДДАНАСЦЬ СПРАВЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ І АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ.

МЫ ВЫКАЗВАЕМ САМАЕ ШЧЫРАЕ ШКАДАВАННЕ, ШТО НЕ ЗМАГЛІ У ГЭТЫ ДЗЕНЬ БЫЦЬ З ВАМІ.

ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ТАКІМ, ЯК ВЫ ,

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.

---

Нумар падрыхтавалі: Станіслаў Суднік, Ігар Супаненка, Віктар Грамадка, Станіслаў Цвірка, Сяржук Пахучы. Шрыфт тэхнічны.
Наклад абмежаваны. Рэдакцыя дазваляе перадрук сваіх матэрыялаў любому выданню.

Палкоунік Уладзімір Шнэк

Заступнік начальніка галоунага
штаба Беларускага Вызвольнага Фронту

# Г І С Т О Р Ы Я  Б. К. А.

(Заканчэнне. Пачатак у NN 11,12)

Зразумеушы сваю памылку, немцы адцягнулі рэшткі дывізіі у Судэты і зноу запрапанавалі Беларускай Цэнтральнай Радзе пераняць каманду ды перафарміраваць дывізію нанава. Да гэтага часу у Берліне закончыліся курсы афіцэрскай і падафіцэрскай школау, якія і былі накіраваны у размяшчэнне дывізіі у раене Вайдэн-Графэнвэр,куды і выехалі 28.01.1945г.пад камандай падпалкоуніка Ф.Кушаля.

Тут варта упамянуць, што якраз у гэты час Расійская акцыя, ачоленая генералам А.Уласавым набыла шырокі размах і розгалас. У Празе Чэшскай быу абвешчаны "Маніфест да народау Расіі" з заклікам, каб усе народы "Расіі" аб'ядналіся пад сцягамі"Русской Освободительной Армии",а разбірацца у нацыянальных пытаннях і у раздзеле СССР будзем потым, як здабудзем нашу і вашу свабоду. Немцам гэтая ідэя падабалася (за выключэннем райхміністра Розенберга), і яны моцна націскалі на прэзідэнта Р.Астроускага, каб ен пайшоу на аб'яднанне з А. Уласавым. Прэзідэнт Р.Астроускі не пагаджауся, а на нашага прэзідэнта тады глядзелі і іншыя нацыянальныя рухі, як на праваднiка - варта было беларусам пагадзіцца ды злучыцца з РОА, як следам пацягнуліся б і іншыя: украінцы, казакі, грузіны, татары і іншыя. Аднак прэзідэнт Р.Астроускі стаяу непахісна на сваім: "Як саюзнікі будзем разам,але оліваццa і біцца "за нашу і вашу вольнасць" - не! Ведаем ужо".

Былі і сярод беларусау незадаволеныя гэтым, некалькі афіцэрау з кадравага батальена у Берліне перайшлі самавольна да А. Уласава, але не шмат, як памятаю, трох ці чатырох, у іх ліку і капітан Пугачоу, былы начальнік БКА Менскай Акругі. Былі не задаволены і немцы.Націск на прэзідэнта узмоцніуся настолькі, што увесь беларускі Берлін чакау што вось-вось прэзідэнта схопіць гестапа. І гэты націск цягнууся аж да канца вайны.

Між тым, у дывізіі новапрыбылыя курсанты былі размеркаваны паміж рознымі баявымі адзінкамі і прайшлі інтэнсіуную баявую падрыхтоуку ва умовах дзейнай арміі.

Дзень 25 сакавіка 1945 году быу адзначаны вялікім парадам дывізіі у Графэнвэры. Парад прымау з трыбуны сам прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады прафесар Радаслау Астроускі.Быу прачытаны загад прэзідэнта аб наданні афіцэрскіх рангау курсантам афіцэрскай школы.

Батальен за батальенам, пад сваімі беларускімі сцягамі і пад камандай сваіх афіцэрау, як маер Б. Рагуля, капітан Чайкоускі, капітан Таміла,старшы лейтэнант Д. Клінцэвіч і шмат іншых,упэунена праходзілі перад трыбунай. Роты аутаматчыкау, снайперы,батальен лясных стралкоу пад камандай маера Сокал-Кутылоускага, артылерыйскія батарэі, саперныя батальены, кавалерыйскія звязы.

У гэты час у Берліне закончыла працу статутавая камісія. Былі прыняты канчатковыя палажэнні аб уніформе, адзнаках і узнагародах у Беларускай Краевай Абароне. Выпрацавана і зацверджана сістэма камандау і палявыя статуты для пяхоты і артылерыі.

Раптам цяжка захварэу генерал К. Езавітау і лег у шпіталь. Хвароба настолькі цяжкая, што ніхто ужо не спадзявауся пабачыць яго у жывых. Не ведаю дакладна, але насіліся чуткі, што мае рак страуніка.

Прэзідэнт БЦР Р.Астроускі вызначае на яго месца кірауніком вайсковага аддзелу БЦР і галоунакамандуючым Беларускімі Збройнымі Сіламі палкоуніка Сцяпана Шнэка.

Хутка пасля гэтага пачынаецца эвакуацыя Берліна. Беларускія арганізацыі,адна за другой, выяжджаюць на Захад.Нішчаць архівы, вывозяць сем'і. Прэзідэнт сам наглядае, каб нікога і нічога не забылі. Ен пакідае амаль акружаны Берлін апошнім так,як калісьці і Менск.

У Графэнвэры і у Вайдэне, дзе была расквартыравана беларуская дывізія, ці, як яе сталі называць, штурмавая брыгада "Беларусь", раптам пачалі адбывацца нецікавыя рэчы.Дывізію раззброілі, пакінулі па аднаму карабіну на дружыну і персанальную зброю афіцэрам, пад прэтэкстам,што будзе выдадзена новая зброя-лепшая. Тады неупрыкмет знікла большасць нямецкага сувязнога персаналу разам са славутым палкоунікам Зіглінгам. Ніхто тады не ведау, што у гэты час пад Прагай Чэшскай ішлі баі між немцамі, якія хацелі знішчыць Прагу і уласаускай РОА, якая не хацела дапусціць знішчэння гэтага гістарычнага горада.Як высвятлелася пазней, немцы баяліся, што беларуская дывізія можа далучыцца да уласауцау у абароне славянскай Прагі, як гэта зрабілі беларускія курсанты снайперскай школы, якая знайходзілася недалека ад Прагі. Неузабаве Чырвоная Армія прабілася да Прагі, РОА адыйшла і гэты славуты гістарычны горад, дзе наш Францішак Скарына пачынау сваю выдавецкую справу, быу уратаваны.

Беларуская дывізія, застаушыся без зброі і амуніцыі, ды з вельмі абмежаванай колькасцю правіянту, вырушыла на захад. Адступалі.

Тут я абмяжуюся падзеямі звязанымі з першым стралковым палком, пры якім застауся і падпалкоунік Ф.Кушаль,фактычна абняушы над ім каманду.У склад палка уваходзілі: 1-шы батальен лясных стралкоу маера Сокал-Кутылоускага, 2-гі стралковы батальен капітана Чайкоускага і 3-ці стралковы батальен капітана Тамілы. Ішлі некалькі дзен, фактычна начэй, бо у дзень зыходзілі з дарогі у лес, адпачывалі, паджыуляліся, неслі варту.

Не ведаю адкуль, але раптам разнеслася чутка, ей верылі,бо, як кажуць, дыму без агню не бывае, што блізка франтавой зоны нямецкія карныя аддзелы расстрэльваюць на месцы усіх чужынцау, незалежна, вайсковых ці цывільных. Маер Сокал-Кутылоускі, дасведчаны вопытам мінулай вайны і Слуцкага паустання,вырашае адвесці свой батальен у горы,схавацца у лесе і там ужо вырашаць, што рабіць. Батальен зыходзіць з дарогі і паглыбляецца у лес, там акопваецца, будуе каменныя завалы і чакае, што будзе. Праз некалькі дзен разведка данесла, што непадалеку знаходзіцца якісь склад, і ахова не вялікая, прыблізна адна дружына.Старшы лейтэнант Д.Клінцэвіч збірае звяз добраахвотнікау і робіць налет на склад. Ахова складу разбягаецца без адзінага выстралу. Спадзяваліся знайсці там правіянт, а знайшлі зброю. Ды якую зброю! Навейшыя узоры легкіх кулямэтау, аутаматы, напауаутакатычныя стрэльбы, карабіны, гранаты і амуніцыя, колькі хочаш. Усе новенькае, ямчэ у мазуце. Батальен узброіуся аж з лішкам. Наладавалі абозныя павозкі амуніцыяй,гранатамі,запасовай зброяй, каб пры нагодзе перадаць у іншыя батальены. Дух у батальене прыузняуся, зараз можна трымацца. Выстаім!

Не мінуу тыдзень,як ганец ад падпалкоуніка Ф.Кушаля прывез вестку, што навязалі кантакт з генералам РОА Мальцавым, які са сваімі людзьмі быу расквартэраваны непадалеку, і што дамовіліся супольнымі сіламі прарваць нямецкі фронт і здацца амерыканцам. Амерыканцы ужо аб гэтым ведаюць, абяцаюць падтрымку калі гэта спатрэбіцца, і, што галоунае абяцаюць, ніхто з удзельнікау прарыву ні у якім разе не будзе выдадзены Саветам. Прапануецца маеру Сокал-Кутылоускаму з батальенам далучыцца да палка на працягу наступных двух дзен.

Полк ізноу злучаны, але зараз есць зброя і пэунасць духу. Пры генерале Мальцаве:ягоны штаб каля 50 афіцэрау, камендантская рота, летная афіцэрская школа,каля 100 курсантау, саперны звяз і некалькі супрацьпаветраных гармат з прыслугамі і, зразумела, як і у беларусау, абозы і палявыя кухні.

За дзень перад прарывам па загаду генерала Мальцава рэквізавалі у нямецкіх баузрау статкі быдла, бульбу і іншыя спажывунасці. Палявыя кухні дыміліся цэлы дзень гатуючы смачную ежу з добрым кавалкам мяса для кожнага. Наеліся у гэты дзень першы раз за доугія і галодныя тыдні, нават і на заутра засталося.

Нарэшце прыйшоу дзень. Уся армада выстраілася у калону на шашы, ашчацінілася зброяй і рушыла у напрамку Цвізэля 30 красавіка 1945 году. Батальен лясных стралкоу пад камандай маера Сокал-Кутылоускага, як найлепш узброены,тварыу ударны клін перад калонай і прыкрывау флангі. Саперы РОА спрытна развальвалі супрацьтанкавыя завалы,абязшкоджвалі міны.За саперамі пад аховай камендантскай роты РОА ішлі, адзін побач другога і кожны пад сваім нацыянальным штандарам, падпалкоунік Беларускай Краевай Абароны Францішак Кушаль і генерал авіацыі РОА Мальцау.За імі - штабы, батальены, гарматы, абозы і, далучаючыяся да маршу, цывільныя остарбайтэры: палякі, чэхі і усе тыя, хто хацеу перайсці лінію фронту.

Захопленыя знянацку немцы, перапалохаушыся такой масы навалівушайся з тылу, проста разбягаліся, не аказваючы супраціву.

Так перайшлі фронт. Аддалі пашану сцягам і злажылі зброю. На гэтым скончыуся збройны перыяд Беларускай Краевай Абароны на чужыне.

Палон амерыканскі не быу легкім:голад, холад, хваробы і нават выпадкі звар'явання.У палоне амерыканцы перавозілі з лагеру да лагеру і усе пад адкрытым небам:дождж, часам снег, балоты, слякаць, а потым палячае сонца.Перавозілі з лагеру у лагер і расцярушвалі. Усе меншыя і меншыя групы...

Вайна скончылася, а палонных перавозяць з лагеру у лагер і нарэшце, у чэрвені 1945 году група жаунерау і афіцэрау БКА і РОА, якая апынулася у лагеры каля Шэрбургу што у Францыі, налічвала каля 200 чалавек. Пасля прыблізна 2-ух месячнага зняволення гэтую групу пераапранулі у чыстую амерыканскую уніформу і вывелі з лагеру на дарогу, якая вяла у порт Шэрбурга. Па дарозе амерыканскі канвой быу заменены савецкім. Так давялі да порту на чугуначную грузавую станцыю. Пагрузілі у таварныя вагоны і вывезлі пад канвоем Смершу у савецкую акупацыйную зону Нямеччыны.

Пяць старэйшых афіцэрау, у тым ліку і маер Сокал-Кутылоускі адмовіліся пераапранацца у амерыканскую уніформу, так іх і павезлі у поуных уніформах БКА і РОА. Іх везлі у асобным вагоне. Везлі на расправу катам з НКВД. Што з імі зрабілі нават страшна сабе уявіць.Калісьці у будучым вольная Беларусь паставіць ім помнік, а пакуль, хай будзе пухам для іх тая зямля дзе спачывае прах.Цешыць толькі тое,што не прапала надарма іх пакута і ахвярная смерць. Мусілі нарэшце акупанты вызнаць, што Беларусь мае сваю слауную і асобную гісторыю, што глядзіць беларус у будучыню з пэунасцю і рашучасцю, што верыць ен у лепшае вольнае заутра, і, што гатоу беларус за гэта змагацца, і, калі прыйдзе патрэба, аддаць свае жыцце, чаго не было да БКА. Мусілі акупанты выпусціць на свет нашых нацыянальных герояу мінуушчыны: мастакоу, паэтау, навукоуцау, чаго не было да БКА. І, нарэшце, мусілі прызнаць права Беларусі на незалежнасць і даць ей пачэснае месца у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, як роунаму з роунымі, чаго не было да БКА.

З канцом вайны барацьба БКА за вольную і незалежную Беларусь не прыпынілася. Змяніліся толькі метады.Пачауся перыяд грамадска-палітычны. Пачынаючы з 1945 году, адразу пасля заканчэння вайны, калі свет стау набіраць спакайнейшы выгляд, па загаду прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Р.Астроускага была створана арганізацыя "Беларускі Вызвольны Рух", якая увабрала у сябе большасць вайскоуцау Беларускай Краевай Абароны.Пазней, з тактычных прычынау, арганізацыя была пераіменавана у "Беларускі Вызвольны Фронт", і пад кірауніцтвам кірауніка аддзелу вайсковых спрау Беларускай Цэнтральнай Рады генерала Дзмітрыя Касмовіча, далей працягвае барацьбу за вызваленне нашай Бацькаушчыны.

Нам,Беларускаму Вызвольнаму Фронту разам з беларускім народам, баліць за Беларусь! Моцна баліць за шматлікія Курапаты. Моцна баліць за Чарнобыль. Моцна баліць за тэрытарыяльнае рабауніцтва Беларусі. Нам моцна баліць за знішчаныя помнікі беларускай гісторыі і культуры. Нам моцна баліць за нашу пакалечаную мову. Нам баліць за усе крыуды, якія пацярпела наша маці Беларусь ад царскай і камуністычнай Масквы, і мы дамагаемся поунай рэстытуцыі і кампенсацыі за усе панесеныя Беларуссю страты ад камуністычнай улады у Савецкім Саюзе і іх марыянетак у Менску.

Беларускі Вызвольны Фронт змагауся, змагаецца і будзе змагацца за абсалютную незалежнасць Беларускай Рэспублікі.

Беларускі Вызвольны Фронт разам з беларускім народам даб'ецца гэтай незалежнасці, аб гэтым няма ніякіх сумнівау.І толькі тады, на сваім усенародным вечы, ці на 3-ім Усебеларускім Кангрэсе, народ без прымусу вырашыць - ці патрэбны яму якіясь саюзы і з кім.

Сенняшняя Еуропа рухаецца у кірунку аб'яднання і кааперацыі. Былыя сатэлітныя краіны СССР, вызваліушыся ад камуністычнага іга, далучаюцца да гэтага руху, і у хуткім часе моцна стануць на собскія ногі, як эканамічна так і палітычна.

Надышоу і наш час. Супольнымі сіламі мы пераможам.Беларусь увайходзіць у вольную сям'ю вольных народау свету.І закрасуецца, як непауторная кветка шчасця у мірнай працы,дастатку,справядлівасці і супакоі.

Жыве Беларусь!

